Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 26 сакавіка 1999 г. № 33 (564) Кошт свабодны

## Вясна. Незалежнасць. Свабода.

**Аргкамітэт па святкаванні 81-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі звярнуўся да суайчыннікаў з заклікам адзначыць Дзень Волі як найбуйнейшае нацыянальнае свята.**

У звароце гаворыцца, што ў цяперашніх умовах беларускаму народу даводзіцца працягваць барацьбу за ідэалы незалежнасці і свабоды. «*Але паварнуць гісторыю назад, зацягнуць Беларусь у каланіяльную багну не ўдасца нікому*», — гаворыцца ў звароце.

28 сакавіка ў Мінску пройдзе масавая акцыя апазіцыі, прысвечаная Дню Волі. А 12-й гадзіне з плошчы Якуба Коласа пачнецца ўрачыстае шэсце «Вясна. Незалежнасць. Свабода», якое пройдзе па праезнай частцы праспекта Францыска Скарыны і вуліцы Янкі Купалы. На плошчы Парыжскай камуны адбудзецца мітынг.

У аргкамітэт па святкаванні 81-й гадавіны БНР, які ўзначальвае вядомы гісторык Анатоль Грыцкевіч, увайшлі кіраўнікі некалькіх буйнейшых партыяў і рухаў краіны, прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі.

*БелаПАН*

## Чыгір сустрэнецца з выбаршчыкамі

Сёння ў Мінску ва ўправе Беларускага Народнага Фронту (вуліца Варвашэні, 8) у 17:30 адбудзецца сустрэча моладзі з кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Міхаілам Чыгіром. Гэтую сустрэчу з выбаршчыкамі ладзяць маладзёжны каардынацыйны штаб па падтрымцы прэзідэнцкіх выбараў і маладзёжная фракцыя БНФ. Ва ўлётцы, якая запрашае на гэтую сустрэчу, гаворыцца, што Міхаіл Чыгір дасць адпор абвінавачванням у свой адрас з боку канкурэнта на пасаду кіраўніка краіны Зянона Пазьняка, а таксама адкажа на ўсе пытанні выбаршчыкаў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Подпісы паступаюць у Цэнтрвыбаркам

**Актывісты перадвыбарчай каманды Міхаіла Чыгіра датэрміновы сабралі 100 тысяч подпісаў грамадзянаў, неабходныя для рэгістрацыі іхняга лідэра ў якасці афіцыйнага кандыдата на прэзідэнцкую пасаду. У сераду яны перадалі частку гэтых падпісных лістоў у Цэнтрвыбаркам.**

Як паведамілі нам у штабе былога прэм'ер-міністра Беларусі, хоць тэрмін здачы подпісаў быў прызначаны на 25 сакавіка, удзельнікі каманды Чыгіра вырашылі трохі апярэдзіць падзеі. А ў апошні дзень яны збіраліся перадаць у камісію Віктара Ганчара яшчэ некалькі дзесяткаў тысяч подпісаў звыш устаноўленай нормы. Па словах прадстаўнікоў экс-прэм'ера, выбаршчыкі ва ўсіх рэгіёнах краіны падпісваліся за Міхаіла Чыгіра даволі актыўна, і таму, нягледзячы на рэпрэсіі з боку ўладаў, ім без асаблівых цяжкасцяў удалося назбіраць неабходную колькасць аўтографаў беларускага электарата. У сераду каля штаб-кватэры былога прэм'ера міліцыя затрымала двух маладых гамяльчанаў, якія прывезлі 2 тысячы подпісаў, і арганізавалі вобыск у іх машыне. Па словах затрыманых, ахоўнікі парадку сачылі за імі ад самага Гомеля. Відаць, правінцыйныя небаракі-міліцыянты, нагледзеўшыся БТ, думалі знайсці ў актывістаў астранамічныя ганарары. Пабачыўшы, што ніякіх грошай у хлопцаў няма, оперы хутка рэціраваліся.

У паспяховым завяршэнні гэтага этапу выбарчай кампаніі не сумняваюцца і ў штабе другога кандыдата ў прэзідэнты — Зянона Пазьняка. Праўда, франтаўская каманда вырашыла не спяшацца, спачатку пераправерыць правільнасць афармленых імі дакументаў і толькі пасля гэтага перадаваць падпісныя лісты ў ЦВК.

У штабах абодвух прэтэндэнтаў прызнаюць, што сімпатыі людзей, якія падпісваліся за Пазьняка і Чыгіра, падзяліліся прыкладна пароўну, асабліва ў правінцыі. А вось у Мінску ў гэтым «папяровым галасаванні» перамог экс-прэм'ер. Па словах перадвыбарчых актывістаў, улады ўсімі сіламі спрабавалі сарваць кампанію (толькі за час збору подпісаў па краіне міліцыяй было затрымана некалькі дзесяткаў чалавек), але безвынікова. Зборшчыкі сваю работу зрабілі, і цяпер на працягу дзесяці дзён Цэнтрвыбаркам павінен праверыць правільнасць прадастаўленых дакументаў і сапраўднасць подпісаў выбаршчыкаў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

***Нагадваем нашым чытачам, што ў гэтую нядзелю Беларусь пераходзіць на «летні» час. З наступнага тыдня давядзецца на гадзіну раней уставаць: стрэлкі гадзіннікаў пераводзяцца на 1 гадзіну наперад. Афіцыйны перавод часу адбудзецца ў ноч з 27 на 28 сакавіка (з суботы на нядзелю) у 2 гадзіны ночы.***



## Ядзерны шантаж

Ці верне Беларусь свой ядзерны статус? У апошнія два дні гэтае пытанне стала найважнейшым, саступаючы па актуальнасці толькі тэме бамбардзіровак Югаславіі.

Імпульсам для распальвання ядзерных жарсцяў у Беларусі паслужыла інфармацыя з Масквы, якую агенцтвы навінаў распаўсюдзілі раніцай 24 сакавіка. Сцвярджалася, што на нарадзе ў расійскага міністра абароны Ігара Сяргеева было прынятае рашэнне «рэкамендаваць» вяртанне тактычнай ядзернай зброі ў Беларусь у якасці дзеяння ў адказ на вераготную бамбардзіроўку *NATO* Югаславіі. Беларускае кіраўніцтва ўвесь дзень трымала паўзу, не сказаўшы расіянам на іх «прапанову» ні так, ні не. Толькі ўвечары 24 сакавіка з'явілася заява прэзідэнта Лукашэнкі з асуджэннем дзеянняў *NATO* ў Югаславіі, аднак у гэтым дакуменце ані словам не была закранутая «ядзерная прапанова» Расіі. Склалася ўражанне, што беларускае кіраўніцтва «рэкамендацыю» Сяргеева калі і не вітае, то мае на ўвазе.

Гэтыя падазрэнні пацвердзіліся, калі ў выступленні па БТ намеснік дзяржсакратара Савета бяспекі Віктар Навельскі заявіў, што «не выключае магчымасці размяшчэння» ядзернай зброі ў Беларусі. І толькі ўчора афіцыйныя структуры пачалі рабіць заявы аб бяз'ядзерным статусе Беларусі. У прыватнасці, міністэрства замежных справаў падкрэсліла, што Беларусь застаецца адданай адпаведным міжнародным пагадненням. Між тым сам Аляксандр Лукашэнка на ядзерную тэму не выказаўся.

Прэзідэнт, магчыма, лічыць дастатковым сваю заяву месячнай даўнасці: у Маскве на са-



*У такім выглядзе пакінулі расійскія войскі адну з базаў у нашай краіне.* *(Фота з архіва СВАБОДЫ)*

міце мытнага саюза ён ашарашыў журналістаў шкадаваннямі пра тое, што Беларусь больш не мае ядзерных ракетаў. Вывад гэтай зброі з Беларусі Лукашэнка назваў «вялікай памылкай» і пры гэтым заявіў, што ракеты можна вярнуць, бо «нам патрэбна думаць пра бяспеку агульнай айчыны». А ў прынцыпе, ці магчыма гэта?

Нагадаем, што тактычная ядзерная зброя была вывезеная з Беларусі хутка пасля распаду СССР, а стратэгічная — у 1996 годзе. Згодна з міжнароднымі абавязацельствамі, Беларусь пачала знішчаць стартавыя пляцоўкі для стратэгічных ракетаў, у гэтым ёй нават дапамаглі ЗША, але два гады таму гэты працэс спыніўся. Лукашэнка заявіў тады, што не хапае грошай, але на самой справе клапаціліся не пра знішчэнне, а пра захаванне былых ядзерных аб'ектаў. Тым не менш вярнуць іх у строй наўрад ці магчыма. Такой думкі прытрымліваецца былы міністр абароны Павел Казлоўскі. Ён сцвярджае, што інфраструктура для знаходжання ядзернай зброі ў Беларусі прыйшла ў непрыгодны стан. «Было б разумней пабудаваць новыя ракетныя базы, але на гэта няма ні грошай, ні часу», — упэўнены Павел Казлоўскі. Прапанову расійскага міністра Сяргеева ён назваў спробай «рассмяшыць і запалохаць Захад» без усялякіх шанцаў на дасягненне жаданага выніку.

Беларуская апазіцыя ў спецыяльнай заяве асудзіла гульні з ракетамі, назваўшы іх «ядзерным шантажом». Учора на прэс-канферэнцыі выказаліся на гэтую тэму лідэры апазіцыйных партыяў, кіраўнікі дзеючага Вярхоўнага Савета і ранейшых парламентаў. Сямён Шарэцкі назваў расійскіх генералаў «ястрабамі, якія ўмешваюцца ў справы Беларусі і ўцягваюць нас у вайну». Мечыслаў Грыб нагадаў, што расіяне прапанавалі тое, аб чым даўно марыў беларускі прэзідэнт. А Станіслаў Шушкевіч частку адказнасці за югаслаўскія падзеі ўсклаў і на Расію, якая «не знайшла падыходу да Мілошавіча». Размовы пра размяшчэнне ядзернай зброі ў Беларусі Шушкевіч лічыць недапушчальнымі. Беларускі Народны Фронт звярнуўся да ўрадаў ЗША і Вялікабрытаніі, як да гарантаў бяз'ядзернага статусу Беларусі, з заклікам забяспечыць захаванне гэтага статусу.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## На футбол пад бел-чырвона-белым

**Група мінскіх балельшчыкаў заклікала футбольных фанатаў прыняць удзел у акцыі пад назваю «На наш футбол пад нашым сцягам».**

Яе ініцыятары прапануюць беларускім аматарам футбола прынесці заўтра на мінскі стадыён «Дынама», дзе пройдзе адборачны матч чэмпіяната Еўропы паміж зборнымі Беларусі і Швейцарыі, бел-чырвона-белыя сцягі, парасоны і іншую атрыбутыку нацыянальных колераў. Балельшчыкі-патрыёты лічаць, што дзякуючы падобнаму аздабленню трыбунаў беларускай камандзе будзе лягчэй перамагчы швейцарцаў.

Арганізатары акцыі цяпер распаўсюджваюць па Мінску спецыяльную інструкцыю, у якой падрабязна тлумачыцца, як трэба праносіць «крамольныя» сцягі на стадыён, каб пры гэтым не патрапіць у рукі міліцыі. Падобны дакумент таксама размешчаны ў Інтэрнэце.

**Язэп СІНІЦКІ**

## У Беларусі выбухі на рэках

**Сёлетняя паводка ў нашай краіне найбольш моцная за ўвесь перыяд назіранняў.**

Пра гэта нам паведамілі ў Белгідраметцэнтры. Яе паказчыкі пераўзыходзяць узроўні навадненняў у Беларусі ў 1931, 1958 і 1979 гадах. Паглядзець на сёлетні патоп учора накіраваўся прэзідэнт Лукашэнка, які планаваў пабываць у Столінскім і Жыткавіцкім раёнах.

Найбольш складаная паводкавая сітуацыя захоўваецца ў Брэсцкай, Гомельскай і Мінскай абласцях. Наогул у 26 раёнах краіны затоплена 208 населеных пунктаў. З затопленых тэрыторыяў эвакуіравана 2230 чалавек. Ёсць апасенні, што паводка пакажа сябе і ў Віцебскай вобласці. Ва ўсякім разе, сапёры падрываюць лядовае покрыва на Заходняй Дзвіне ў самым цэнтры Віцебска. Учора падрыўнікі працавалі каля апошняга ў горадзе (трэцяга) моста, імя Кірава. Чуліся выбухі і на Прыпяці ў раёне Жыхавічаў, а таксама на Гарыні каля Атвержыча, дзе вайскоўцы падрывалі заторы лёду.

У пацярпелых раёнах працуюць санітарныя службы, якія хлараруюць пітную ваду ў водаправодах і студнях, знішчаюць бытавых насякомых і грызуноў. Для гэтых прафілактычных мераў яны «узброеныя» хлоркай, на якую выдзелілі грошы мясцовыя ўлады.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## «Давер» падключылі

Пры міністэрстве ўнутраных справаў пачаў працаваць тэлефон даверу, па якім можа патэлефанаваць кожны грамадзянін нашай краіны і паскардзіцца на любога міліцыянера альбо міліцэйскае падраздзяленне. Калі вас пакрыўдзілі людзі ў форме, пазваніце па тэлефоне ў Мінску 229-72-22 (па рабочых днях з 10 да 18 гадзінаў). Вашую скаргу прыме спецыяльна створаная служба. Міністэрства ўнутраных справаў абяцае вывучыць і прыняць меры па ўсіх фактах, якія паведамяць грамадзяне.

**М.В.**

## Пасол застаўся ў Бялградзе

Як паведамілі ў міністэрстве замежных справаў, беларускія дыпламаты на чале з Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Валерыем Брылёвым застаюцца ў Бялградзе, нягледзячы на ваенную аперацыю НАТО ў Югаславіі.

Нашыя дыпламаты палічылі, што натаўскія бомбы не ўяўляюць вялікай небяспекі для беларускага пасольства. Аднак у сераду сем'і супрацоўнікаў амбасады пры дапамозе расіянаў былі перавезеныя ў Венгрыю, дзе яны правядуць некалькі дзён. У выпадку пагаршэння сітуацыі сем'і пераправяць у Мінск. Паводле афіцыйных дадзеных, жонка і дзіця пасла, а таксама жонка саветніка пасольства таксама вырашылі застацца на «перадавой». Яшчэ 19 беларускіх грамадзянаў, якія знаходзіліся ў Югаславіі ў складзе місіі АБСЕ, па рашэнні гэтай арганізацыі перавезеныя ў больш бяспечнае месца ў Македоніі.

**А.Д.**

### НАДВОР'Е

На мінулым тыдні атмасферныя фронты з дажджамі і мокрым снегам не давалі вясне ўступіць у свае правы. 27 і 28 сакавіка цёплыя паўднёва-ўсходнія ветры прынясуць добрае, без ападкаў надвор'е. Тэмпература ўначы ад -1 да +4, удзень — +7—+12, а ў паўднёвых раёнах Беларусі да 13—17 градусаў цяпла. Такое надвор'е захаваецца да канца сакавіка.

## Літва збіраецца ў NATO

**У Вашынгтоне адбылася сустрэча Дзяржаўнага сакратара ЗША Мадлен Олбрайт з прэм'ер-міністрам Літвы Гедымінасам Вагнорусам.**

Дзяржсакратар Олбрайт і літоўскі прэм'ер-міністр Вагнорус выказаліся ў падтрымку Амерыкана-балтыйскай хартыі партнёрства, якая прадугледжвае поўнамаштабную інтэграцыю Літвы ва ўсе еўрапейскія і трансатлантычныя інстытуты, уключаючы *NATO*. Дзяржсакратар выказала задавальненне тым прагрэсам, якога дамаглася Літва пасля мадрыдскага саміту *NATO* ў падрыхтоўцы да ўступлення ў альянс, і, у прыватнасці, цвёрдым намерам Літвы рэалізаваць планы мадэрнізацыі абароны і падвышэння ўзроўню аператыўнай сумяшчальнасці з узброенымі сіламі *NATO*. Мадлен Олбрайт адзначыла пазітыўныя вынікі актыўнай рэгіянальнай дыпламатыі, а таксама ўклад Літвы ў справу ўмацавання бяспекі і стабільнасці, у прыватнасці, у Босніі. ЗША ўлічаць гэта пры разглядзе пытання аб гатоўнасці Літвы да ўступлення ў *NATO*.

Прэм'ер-міністр Літвы Вагнорус падкрэсліў, што яго краіна гатовая прыняць на сябе абавязацельствы, звязаныя з членствам у *NATO*, і выказаў упэўненасць, што ўваходжанне Літвы ў *NATO* паслужыць на карысць еўрапейскай стабільнасці. Ён падзякаваў Злучаным Штатам за падтрымку ў эканамічнай сферы і ў пытаннях бяспекі.

**М.В.**

## Справа Сушкова на кантролі прэзідэнта

**Старшыня Магілёўскага абласнога суда Уладзімір Папанюк абверг абвінавачанні, выказаныя ў адрас судовай сістэмы рэспублікі былым суддзёй з Бабруйска Юрыем Сушковым.**

Нагадаем, што нядаўна Ю.Сушкоў, скарыстаўшы турыстычную паездку ў Германію, папрасіў у нямецкіх уладаў палітычнага прытулку. Напярэдадні свайго ад'езду ён праведў у Мінску прэс-канферэнцыю, на якой абвінаваціў судовую сістэму Беларусі і вышэйшых дзяржаўных чыноўнікаў у грубым парушэнні закона і Канстытуцыі краіны. Ён, у прыватнасці, заявіў, што дзейнасць суддзяў у Беларусі жорстка кантралюецца выканаўчай уладай. Сваю просьбу аб прадастаўленні яму палітычнага прытулку ў Германіі Ю.Сушкоў патлумачыў апасеннямі за сваё жыццё, паведаміўшы, што апошнім часам яму неаднаразова пагражалі расправай. Больш таго, сцвярджаў суддзя, на яго аказвалі ціск прадстаўнікі выканаўчай улады і супрацоўнікі КДБ: яны патрабавалі суровых прысудаў для мытнікаў, якія падазраваліся ў дачыненні да махінацыяў на Бабруйскім гідролізным заводзе.

У.Папанюк заявіў, што Сушкоў прапрацаваў у якасці суддзі ўсяго год і ў яго занадта мала вопыту, каб ставіць пад сумненне дзейнасць судовай сістэмы краіны і «паліваць усіх і ўсё брудам». Ёсць таксама звесткі аб тым, што сітуацыю са «справай Сушкова» асабіста кантралюе прэзідэнт А.Лукашэнка

*БелаПАН*

## Пасадзілі за выбары

**На 15 сутак арыштавалі старшыню Клічаўскага райвыбаркама Міхаіла Долбіка і кіраўніка мясцовай ініцыятыўнай групы Зянона Пазьняка, настаўніка Васіля Альшэўскага.**

М.Долбіка і В.Альшэўскага выклікалі ў мясцовы РАУС, дзе на іх адразу склалі пратакол. Апазіцыянераў абвінавацілі ў непадпарадкаванні патрабаванням міліцыі. І гэта нягледзячы на тое, што абодва ўдзельнікі прэзідэнцкай выбарчай кампаніі самі прыйшлі ў райаддзел міліцыі па першым жа выкліку. У пратаколе ім таксама беспадстаўна інкрымінавалі і нібыта грубыя паводзіны.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Лідчукі, адрамантуйце Шклоў!

**Лідскі райкам БПСМ спешным чынам спрабуе сфармаваць з моладзі гэтак званы будаўнічы атрад, на ўзор тых, што былі распаўсюджаныя ў савецкія часы.**

Ужо ў красавіку лідчукі павінны прыбыць у «прэзідэнцкі» райцэнтр — Шклоў, каб узяць удзел у рамонтных работах, звязаных з падрыхтоўкай да «Дажынак-99», якія адбудуцца толькі ўвосень.

**С.М.**

### БЕЛАРУСКАЯ МОДА

Вырабы беларускага прадпрыемства «Мілавіца» карыстаюцца вялікай папулярнасцю не толькі ў нашай краіне, але і ў Расіі, якая застаецца самым буйным пакупніком беларускай бялізны. Унікальна, што збывае сваю прадукцыю прадпрыемства пераважна за рублі. Аднак у сувязі з крызісам у апошнім квартале мінулага года аб'ёмы продажу «Мілавіцы» ў Расіі склалі 300—500 тысяч долараў замест папярэдніх 1,8 мільёна. Нядаўна «Мілавіца» наладзіла паказ новых мадэляў жаночай бялізны *(на фота)*.



# «Газпром» спорит с ЦРУ о компьютерах

В сенате США продолжает работу комиссия по «проблеме 2000 года». На очередном заседании аналитик Центрального разведывательного управления Лоренс Гершвин выступил с сенсационным заявлением. По его мнению, в ночь с 31 декабря на 1 января большая часть Европейского региона может остаться без электроэнергии — в результате сбоя компьютерных систем ОАО «Газпром». Пресс-служба «Газпрома» опровергает подобное предположение.

Непонятно, по какой причине, но именно ЦРУ активно занималось изучением того, насколько успешно ОАО «Газпром» решает «проблему 2000 года» (возможный сбой компьютерных систем при переходе дат с 1999-го на 2000 год). Американские разведчики пришли к выводу, что у «Газпрома» следующие проблемы:

устаревшие модификации систем управления и баз данных, которые не готовы к возможным нештатным ситуациям;

наземные станции спутниковой связи, обеспечивающие обмен информацией между регионами и штаб-квартирой «Газпрома», также не готовы к наступлению 2000 года;

сотни станций по контролю за оборудованием газопровода, находящиеся в труднодоступных районах Сибири (до некоторых из них добраться можно только на вертолете), управляются с помощью устаревших процессоров.

Из этого ЦРУ делает следующие выводы. Вероятность сбоев в работе газопровода, по которому природный газ транспортируется из Сибири в страны СНГ, Восточной и Западной Европы, крайне велика. В случае аварии быстрое восстановление газопровода или перевод его на ручное управление вряд ли возможны.

Половина электроэнергии в России, 15% электроэнергии, необходимой странам Восточной Европы, и 5% электроэнергии Западной Европы производится на топливе, поставляемом «Газпромом». По оценкам экспертов ЦРУ, в случае прекращения подачи газа зависимые от «Газпрома» регионы смогут продержаться только 30 дней.

Само ОАО «Газпром» не разделяет апокалиптических настроений ЦРУ. Как сообщает пресс-служба компании, еще в 1997 году в ней был создан центральный координационный совет по комплексному решению «проблемы 2000 года». В пресс-релизе, опубликованном в ответ на доклад ЦРУ, руководство концерна утверждает, что с наступлением 1 января 2000 года все его компьютерные системы продолжат работу в установленном режиме — все диспетчерское управление газотранспортных систем обеспечено компьютерами пятого поколения.

*«КоммерсантЪ»*

**P.S.**

*Беларускі дзяржкамітэт па навуцы і тэхналогіях у пажарным парадку вырашае праблемы, звязаныя з апрацоўкай даты 2000 года ў інфармацыйна-вылічальных сістэмах. Да канца года неабходна падрыхтавацца да сустрэчы новага тысячагоддзя. Для Беларусі існуе небяспека няправільнай апрацоўкі даты 2000 года. У выніку могуць спыніцца плацяжы ў банках, парушыцца праца энергетычных і транспартных сістэмаў.*

*Як сказаў выканаўчы дырэктар фонду інфарматызацыі Віктар Дравіца, каб гэтага не здарылася, магчыма, спатрэбіцца замяніць састарэлае абсталяванне. Паводле папярэдніх разлікаў, на гэта спатрэбіцца каля 100 мільёнаў долараў. Утылізацыя пагражае інфармацыйна — вылічальным сістэмам, выпушчаным да 1995 года. Для вырашэння на Беларусі «праблемы 2000 года» беларуская ўлады спадзяюцца атрымаць грант ад Сусветнага банка і скарыстаць вопыт іншых краінаў, якія заняліся гэтай справай значна раней.*

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Ікру з'ядуць палякі

**На беларуска-польскай мяжы, у Кузніцы, польскія мытнікі спынілі «Фольксваген» 23-гадовага беларуса. У машыне было схавана 115 паўкілаграмовых слоікаў з ікрой.**

Палякі былі вельмі здзіўленыя, паколькі сярод кантрабанды з Беларусі ікры звычайна не бывае, а пераважна трапляюцца цыгарэты і спіртное. Адрозна ад польскіх, беларуская мытнікі, наадварот, часта канфіскуюць вялікія партыі прадуктаў, нярэдка далікатэсных, якія незаконна прывозяцца з РП.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Ударная праца на склад

**Па афіцыйных звестках, на складах прадпрыемстваў Магілёва назапасілася выробленай прадукцыі ажно на 2 трыльёны рублёў.**

Большасць прадукцыі немагчыма прадаць нават на расійскім рынку, бо яна неканкурэнтаздольная, няякасная. У выніку прадпрыемствы не атрымліваюць прыбыткаў. На 1 сакавіка запазычанасць па выплаце заробкаў у Магілёўскай вобласці склала 270 мільярдаў рублёў. Амаль 70 мільярдаў — доля прамысловасці. Затое душу ўлады грэе рост вытворчасці.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Настаўнікі абураныя

**Больш за 200 членаў пінскай рэгіянальнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза настаўнікаў выступілі з заклікам да ўсіх працаўнікоў сферы адукацыі аб'яднацца, каб разам адстойваць свае сацыяльныя і палітычныя правы.**

Пінскія настаўнікі абураныя тым, што педагогі цяпер фактычна знаходзяцца на мяжы жабрацтва, атрымліваючы за сваю працу 8—12 долараў у месяц. Сапраўды, на такія грошы асабліва не пашыкуеш, таму, каб пракарміць свае сем'і, настаўнікі вымушаны працаваць на дзве стаўкі, што, як сцвярджаюць аўтары звароту, «прыводзіць да хуткага вычарпання фізічных і духоўных сілаў».

Але, нават цалкам выкладваючыся на працы, педагогі не могуць дазволіць сабе набыць большасць з тых тавараў, якія яшчэ засталіся на паліцах крамаў. Віну за такое становішча настаўнікі ўскладаюць на кіраўніцтва Беларусі, якое, на думку аўтараў звароту, «сваёй некампетэнтнай палітыкай вядзе краіну да бездані». Але замест таго, каб выпраўляць становішча ў эканоміцы, дзяржава, наадварот, «усё больш абмяжоўвае палітычныя і грамадзянскія правы людзей».

На думку педагогаў, толькі агульнымі намаганнямі яны змогуць прымусіць улады выконваць свае абяцанні аб падтрымцы інтэлігенцыі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Трезв ли был автор?

Прочитав номер от 17 марта, я уже не смог сдержать своего возмущения.

Задела «за живое» статья А.Дубравина «Свобода тружеников палки». Оказывается, милиционеры в нашей стране живут едва ли не хуже всех: «Зарплата в 30—40 USD, смешная и пенсия, проблема с обмундированием...» А разве зарплатой можно считать 3—5 USD в месяц, получаемые колхозником? А какой назвать пенсию (если уж не «суперсмешной») у старушки, всю жизнь прогорбатившей, допустим, опять же в колхозе? Проблемы с обмундированием? При разгонах демонстраций оппозиции находится все: и бронежилеты, и каски, и спецсредства. Вот если бороться с преступностью, то в этом случае у милиционеров постоянно не хватает то бензина, то техники, то аппаратуры... Нет. По-моему не хватает, а точнее, отсутствует элементарный профессионализм.

Молодой человек после окончания школы и службы в армии, не имеющий никакой специальности, видит пределом мечтаний дорогу «в менты» — это уже сложившаяся тенденция. Так почему же он должен получать достойную зарплату, а, скажем, профессор или доцент, посвятивший всю жизнь науке, — все те же 30—40 USD?

С удивлением узнаю из этой же статьи, что оппозиция предлагает «зарплату в 7—10 раз большую, жильё за три года, повышение профуровня в западных(!) центрах, земельный участок, кредит...» Господи, да что это за бред! За какие же деньги появятся эти блага?!! Вероятно, автор статьи при ее написании взял на вооружение предвыборные обещания Лукашенко.

Не нужно лукавить, что с приходом к власти оппозиции мы заживем как «там». До «их» уровня жизни нам надо еще работать и работать, и никто, кроме нас самих, не сделает Беларусь счастливой.

**А.ЛЕЩЕНКО,** *Минск*

# Шанец на перамогу

Пасля падпісання ў снежні 1998 г. дамовы аб стварэнні адзінай дзяржавы на базе Беларусі і Расіі прэзідэнтамі Лукашэнкам і Ельцыным над нашай дзяржаўнасцю навісла вялізная пагроза. Па гэтым дакуменце Беларусь фактычна губляе сваю незалежнасць. Трэба асабліва падкрэсліць тое, што падпісаў яго чалавек, які па сваім першачарговым абавязку павінен выступаць найпершым абаронцам нашай незалежнасці, дзяржаўнасці. Чалавек, які кляўся ў гэтым перад усім беларускім народам. Чалавек, які даваў вельмі багата абяцанняў, але вельмі мала з іх стрымаў. Чалавек, які прыйшоў да ўлады пры дапамозе хлусні, бруду ды танных трукаў і які трымаецца ля ўлады пры іх жа дапамозе ды яшчэ пры дапамозе самага найвялікшага ў свеце рэпрэсіўнага паліцэйскага апарату.

Лёс дае нам ці не апошні цывілізаваны, канстытуцыйны, дэмакратычны шанец выказаць свае адносіны да гэтага чалавека. 16 траўня Вярхоўны Савет прызначыў выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Кожны, хто шануе сваю Бацькаўшчыну, паважае памяць продкаў, клапоціцца аб будучым сваіх дзяцей, павінен прыняць у іх самы непасрэдны ўдзел. Толькі разам мы здольныя перамагчы.

**З.АТАВА,** *Гомель*

**Приятно бывает посмотреть по НТВ телесериал «Скорая помощь». Стажер Картер, хирург Бентон, другие персонажи полны знаний и ставят интересы больного на первое место. Распахиваются двери приемного отделения, влетает каталка, бригада врачей и медсестер дружно, без лишних разговоров делает свое дело. Красиво. А главное, никто из медработников не говорит о недостатке лекарств и собственной нищете. Вот их бы на недельку к нам в Беларусь...**

# Записки врача на рецептах

Сначала в мединститут. Вот стажер Картер открывает полученные в институте учебники, везде указано: Москва, издательство «Медицина», 1978, 1980, 1983, а самые современные на уровне 1992 года выпуска. Возможно ли с таким отставанием подготовить специалиста? Вы скажете: «Пусть идет в библиотеку и читает». Но и там книги 1992, 1993, 1994 годов и позже — только в двух экземплярах. Надо читать в зале, по очереди. Но молодому человеку ведь и поесть нужно, и отдохнуть после нескольких переездов по городу. Вы скажете: «Пусть в студенческой столовой питается». Давайте посчитаем, на сколько обедов хватит стипендии в 1.800.000 рублей? Можно еще возразить: «Пусть сам книги покупает». Но какое их количество можно на стипендию купить? Разве что половину тома.

После годовой стажировки приходит молодой специалист в поликлинику. Собственно говоря, он может и не пройти до конца свою стажировку. Отзовут его через несколько месяцев, потому что укомплектованность кадрами в поликлиниках 40 процентов. Зарплата у начинающих три миллиона. А если вы терапевт или участковый педиатр, то вам нужна обувь для ходьбы по участку. Сколько пар обуви купит себе участковый терапевт за месяц на свою зарплату? Опять — половина пары. А если еще семья есть, то купит ли этот специалист-врач своему ребенку хотя бы яблок? Слышу возражение: «Но врачу принесут, и за это он будет жить». Что врачу несут? Шоколадки и коробки конфет — вот самая частая форма благодарности. Но оденешь разве свою семью в обертки от шоколадок, а из конфетных коробок построишь дом?

Колбасы, консервы, шампуни и, наконец, зеленые «американские рубли» — это, конечно, самый лучший способ благодарности за лечение. Но кто это получает? Участковый педиатр? Терапевт? Нет. Врач стационара, а чаще хирург.

Еще давайте вспомним медсестер, санитарок. Им ведь, кроме шоколадок, ничего не принесут. А зарплата у них поменьше докторской.

Что касается состояния нашего здравоохранения и его обеспечения, то все тому свидетели. Если в больницах из антибиотиков есть только пенициллин да гептамицин, то какого уровня медицинской помощи можно ждать? А ледовые дворцы строятся, экономика поднимается, инфляция несется галопом. Дети не рождаются, старики умирают. А медицинская помощь по телевизору такая хорошая. Но не у нас...

**Л.И.,** *Минск*

# Божа, дапамажы нам!

Я адзінокая пенсіянерка, ветэран працы, інвалід III групы Ганчарова Таццяна Іванаўна. Зараз я жабрачка. Пяць гадоў таму назад я не галасавала за гэтага нелюдзя! Хто яно такое? Мы ведаем усё пра прэзідэнта ЗША, яго жыццё дома і на працы, а таксама і прэзідэнтаў іншых краінаў, але мы не ведаем, адкуль узяўся наш, хто яго бацькі? Чаму яно вырасла невыхаванае, бескультурнае, ілжэ, правакуе, не шануе нашую Беларусь, знішчае ўсё беларускае — гісторыю, мову. Чаму такая непавага тым, хто думае інакш — розумам, а не сілай, як робіць гэта яно.

Вось ужо надышоў час не кіраваць краінай РБ: 5 гадоў яго было кіраванне, за што галасавалі людзі. Але ў 1996 годзе гэта яно перакрэмсала Канстытуцыю 1994 года, падпарадкавала сабе ўсе галіны ўлады неканстытуцыйным шляхам! Гэта яно ведае, што рабіла гэтым рэферэндумам, абы ён быў, а потым усё падтасавала, як яму жадалася. Вось дзе падман, а зараз кажа, што 80% за яго галасавалі на рэферэндуме-96! Бог гэта бачыў.

Не пройдзе падман! Адбыў 5 гадоў, людзі нацярпеліся ад гарлахапа. Настаў час кіраваць іншым, хто будзе паважаць нашую краіну, беларускі народ! Дыктатара нам не трэба. Сорамна нам за яго. Беларусь зараз на апошнім месцы. Людзі атрымліваюць маленькую пенсію, заробак мізэрны. Што яно робіць, чым думае? Божа, дапамажы нам!

**Т.ГАНЧАРОВА,** *г.Мінск*

# Слово о кандидатах

Как говорится, Платон мне друг, но истина дороже. Безусловно, Зенон Станиславович заслуживает самого высокого доверия народа, чтобы быть избранным в президенты. Именно он, и никто больше, последовательно не только отстаивал суверенитет своего Белорусского Отечества, рассчитывал со своими учеными друзьями и единомышленниками развитие экономического потенциала республики, предсказывал результаты руководства А.Лукашенко и компании, в которой долгое время состоял и М.Чигирь. Но должен заметить, что выставлять свою кандидатуру на выборы в президенты Республики и Пазьняку не следовало бы. И вот почему. Народ настолько глубоко зомбирован режимом против Зенона Станиславовича, что и слушать не желает упоминания его имени. А ведь голосовать будет он, зомбированный народ. И получится очередной конфуз. А нужен ли нам этот конфуз? Конечно же, нет.

Где же выход? Выход есть. В качестве кандидата в президенты республики выдвигать следует Юрия Ходыку, человека, преданного возрождению Беларуси, как и Зенон Станиславович, против которого режимный зомби не подготовлен, он — профессор, испытанный политик и мученик за правое дело. А Зенон Станиславович должен оставаться лидером движения и, при успехе на выборах, мог бы возглавить международное ведомство Республики Беларусь. Мне просто непонятно, почему делается все как нельзя хуже? Почему все время мы рвемся в открытую дверь, где нас не ждут и не желают? Это было уже испытано, результат известен. Кто вводит в заблуждение Сойм БНФ: «Народ созрел!». Созрел, но кого он ждет?

Вот пойдем собирать подписи. Что скажем людям: «За Пазьняка голосовать будем?» А нас и слушать зомбированный народ не станет. Мы здесь, на местах, знаем положение дел: «Если Пазьняк, то пусть лучше Лукашенко». Вот ответ. Мы его слышим везде и каждый день. Вдумайтесь ради общей надежды!

**К.УДОВИДЧИК,** *Пинский район*

ФІНАНСЫ

# Спадарожнікі чалавека

## Вечныя ўтрыманцы

Аб тым, што з грашыма звязаны грэх і спакуса, пісалі ўсе ад Арыстоцеля да Шамякіна. І амаль усе, можа быць за выключэннем заснавальніка сілагістыкі, рабілі гэта за грошы. Нават Маркс, які ў іх бачыў ці не асноўную прычыну ўсіх бедаў працоўнага люду, рабіў гэта за вельмі добрыя грошы.

Але ж канкрэтныя спробы пражыць цывілізавана без грошай заўжды праваліваліся. Успомнім, напрыклад, як чырвоныя кхмеры пачалі новую эру ў жыцці Кампучыі з таго, што ўзарвалі (у прамым сэнсе гэтага слова) усе банкі краіны. Чым гэта ўсё скончылася, добра вядома. Праўда, калі пастарацца, безумоўна, без грошай пражыць можна, гэта пераканаўча даказваюць сучасныя беларусы.

Немагчыма пражыць чалавеку і без пацукоў, хаця ніякай прыемнасці ад суседства з гэтай нахабнай і пражэрнай кампаніяй, зразумела, няма. Пацукі мусіць таксама ставяцца да чалавека як да істоты невысокага ўзроўню, бо яны з лёгкасцю асвойваюць той схаваны ад людскіх вачэй свет, які чалавек стварае для ўласных выгод.

Паколькі пацук жыве ў доме, пабудаваным чалавекам, паколькі ён есць ежу, прыгатаваную чалавекам, яго з поўным правам можна лічыць тыповым і вечным утрыманцам.

## Палітэканом Папандопула

Зразумела, што грошы нялёгка даюцца і іх ніколі не бывае зашмат, бо за грошы можна купіць амаль увесь белы свет, а вось памеры кашалька часцяком не дазваляюць купіць самае неабходнае. Дзеля таго, каб зняць гэтую супярэчнасць, людзі ашчаджаюць грошы, складваючы іх у панчоху, ці нясуць у банкі. Што з гэтага атрымоўваецца, сведчыць такі прыклад. Калі б дзева Марыя пасля нараджэння Хрыста паклала на яго рахунак у ашчадную касу Віфлеема ўсяго 1 долар пад 3 працэнты гадавых, то сёння, каб выплаціць нашчадкам Хрыста дамоўленую суму, не хапіла б усіх грошай свету: 41 квадрыльён долараў, лічба з 24-ма нулямі стаяла б на рахунку Хрыста ў графе «да выплаты».

Інакш кажучы, сёння Хрыстос быў бы багацеем з багацеяў, але занадта многа прыйшлося б яму чакаць. Таму, каб прыспешыць час, многія кідаюцца ў крадзяжы і рабаўніцтвы, замест залатых чырвонцаў штампуюць алавяныя і гэтак далей — спосабаў тут мільёны. Часам нават дзяржава, якая павінна за ўсім гэтым пільна сачыць, не можа ўстаяць перад спакусай хуткага ўзбагачэння. Яна то садзіць у турмы людзей багатых, адбіраючы сабе іх грошы, як гэта рабіла Савецкая дзяржава на працягу ўсёй сваёй гісторыі, то душыць людзей штрафамі ды падаткамі або проста друкуе папяровыя грошы, каб хапала на ўсе дзяржпатрэбы, як гэта практыкуе сучасная Беларуская дзяржава.

Карацей кажучы, робіць усё па рэцэпту Папандопула з апэрэты Г. Аляксандрава «Вяселле ў Малінаўцы»: Бяры мільярд, я сабе яшчэ нарысую. Зразумела, што, ўключыўшы друкарскі станок на поўную моц, дзяржава заўсёды абгоніць насельніцтва, якому, каб атрымаць нейкую там капейку, трэба добра папрацаваць.



## Самая канкрэтная фікцыя

З усіх існуючых у грамадскай думцы фікцыяў, напрыклад, фемінізму, сексуальнай рэвалюцыі ці дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі, грошы з'яўляюцца самай канкрэтнай фікцыяй. Прынамсі, буйныя і дробныя купюры можна сартыраваць, лічыць, класці ў кашалёк ці звязваць гумкай: усё гэта будзе вельмі канкрэтна. А ў чым жа фікцыя? У тым, што пакуль вы зарабляли і лічылі свой мільён, нехта, нічога не робячы, надрукаваў сабе 4 мільёны. Цяпер, калі вы станеце ў чаргу за сасіскамі, гэты «нехта» купіць сабе іх у 4 разы больш за вас. Але хутчэй за ўсё ён прыйдзе ў краму ў ваш рабочы час, яму ж працаваць не трэба, і забярэ сабе ўсе сасіскі.

А пакольки «аппетит приходит во время еды», то гэтаму «нехта» грошай трэба ўсё больш і больш. Таму ён з цягам часу пачынае рабіць толькі дзве рэчы: друкуе грошы і нясе іх у краму. Так прыкладна паводзіць сябе і пацук у клетцы, калі каля яго мордачкі размясціць электракантакт, ускакае замыканне якога дае лёгкі разрад, што прыемна казыча скуру. Жадаючы «спыніць імгненне», пацук хутчэй і хутчэй цісне на кантакт, упадае ў экстаз і гіне ў прамым сэнсе ад асалоды.

У гэтым пацук вельмі падобны да таго «нехта», які мае магчымасць друкаваць грошы для сваіх патрэбаў. І гэтак жа, як і пацука ў клетцы, яго чакае смерць ад асалоды. Справа ў тым, што грашовая сістэма (як мы ўжо казалі, канкрэтная фікцыя), з'яўляецца прадуктам і працуе толькі ва ўмовах узаемнага даверу. Таму што грошы, якія з'яўляюцца мерай вартасці і сродкам абмену, і самі маюць вартасць і цану, не павінны, па магчымасці, іх мяняць. Грошавая адзінка — гэта такі ж стандарт, як кілаграм, метр ці градус. Уявіце сабе, што кравец працуе «інфляцыйным» сантыметрам, а тэмпература вашага цела вымяраецца тэрмометрам, на шкале якога градусы мяняюць сваю велічыню.

А менавіта гэта атрымоўваецца, калі дзяржава друкуе грошы хутчэй, чым на самай справе расце вытворчасць. Ад гэтага грошы абясцэньваюцца, а цэны скачуць угару. Таму ў насельніцтва няма ні жадання, ні магчымасці іх ашчаджаць: трэба хутчэй патраціць, каб успець хоць што ўхваціць з самага таннага. Таму на рэчы складаныя і працаёмкія, накшталт мэблі, бытавой тэхнікі ці прыстойнай адзежы, грошай у насельніцтва не застаецца. Таму для фінансавання прамысловасці патрэбна друкаваць новыя грошы... і гэтак далей, па кругу, які бясконца расшыраецца, і бег ужо забірае ўсе сілы. І ўжо некалі і няма сэнсу працаваць.

Інфляцыя — гэта і ёсць той самы пацук, што з'ядае ўзаемны давер паміж тымі, хто друкуе грошы, і тымі, хто імі карыстаецца. Таму ва ўсім свеце з ёй, як і з пацукамі, змагаюцца штодня і ўсімі сродкамі. Хоць і без разліку на канчатковую перамогу, але ж так, каб пацукі не бегалі па абедзенных сталах, а інфляцыя не ператварала ў труху заробленыя грошы. Інакш не толькі пацукам, а і нам не будзе чаго есці. Радасць ад таго, што яны вымруць, будзе вялікая, але ж мы яе не адчуем.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

# 500 гадоў вольнага права

Калі да выпадковага мінака ў мінскім натоўпе звярнуцца з просьбаю назваць вядомыя яму памятныя даты з гісторыі горада, дык можна не сумнявацца, што найперш ён выцягне з памяці 3 ліпеня 1944 года — Дзень вызвалення ад фашысцкай акупацыі (цяпер 3 ліпеня афіцыйна лічыцца яшчэ і «Днём рэспублікі» і «Днём незалежнасці»). Потым, магчыма, прыгадае, што ў 1919 годзе (дзень, хутчэй за ўсё, не памятае) Мінск стаў сталіцай БССР. А мінак з інтэлектам вышэй сярэдняга яшчэ дадасць, што ў 1067 адбылася бітва на Нямізе, Мінск тады быў спалены — гэта першая летапісная згадка пра горад. Ад 1067 года адлічваецца гісторыя Мінска.

Як бачыце, паміж другой палловай XI стагоддзя і другім дзесяцігоддзем XX — велізарны прагал, пустка. Нават дзіўна, як такі «безгістарычны» горад мог стаць сталіцай краіны. А калі сталіца — люстэрка дзяржавы, дык, мабыць, і краіна адпаведная? Без мінуўшчыны, без гісторыі, 80 гадоў назад прыдуманая. Беларусам часта даводзіцца такое чуць ад фанабэрыстых суседзяў — расійцаў, палякаў, літоўцаў.

У аблічны нашай сталіцы сапраўды амаль не выяўленая тысячагадовая гісторыя беларускага народа. Да таго ж і сталіцай Мінск стаў выпадкова. Не на падставе гістарычнага права (у Полацка, скажам, такіх правоў было болей), а дзякуючы збегу палітычных абставінаў і геаграфічнаму становішчу. Гісторыя Мінска ў гэтым сэнсе нагадвае гісторыю Бона і Тэль-



Авіва — правінцыйных гарадоў, якія пэўны час выконвалі функцыі сталіцаў. Мінск у адрозненне ад Полацка, Навагрудка і Вільні ніколі не быў агульнадзяржаўным, агульнанацыянальным цэнтрам. Але і глухменню ён ніколі не быў. Пра гэта сведчыць той факт, што Мінск меў Магдэбургскае (ці «Майдэборскае» — што больш адпавядае фанетычнаму ладу беларускай мовы) права. Прэтэндаваць на такі прывілей мог толькі горад з моцнай эканомікай і вольналюбівымі жыхарамі. Бо гарады з Майдэборскім правам былі «свабоднымі эканамічнымі зонамі» ў сучасным сэнсе гэтага паняцця, мелі самакіраванне.

Прывілей на Майдэборскае права жыхары Мінска ўзялі 14 (21) сакавіка 1499 года і потым на працягу стагоддзяў, пакуль існавала нашая дзяржава, адстойвалі сваё правы на волю. У тыя часы, калі ўвесь горад можна было ахапіць вокам, стоячы на Траецкай гары, у мінчукоў хапала гонару і мужнасці заявіць: «Мы — горад вольны!»

**П.В.**

*ВЫСТАВА*

# Мінск майдэборскі

Атрыманне Мінскам 500 гадоў таму гарадскіх вольнасцяў — нагода задумацца не толькі пра падзеі далёкай даўніны. У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры з нагоды гэтага юбілею адчынілася выстава «Мінск — горад вольны». Аўтар канцэпцыі выставы Ірына Зварыка лічыць, што пытанне гарадскога самакіравання актуальнае і цяпер, таму ў экспазіцыю ўвайшлі рэчы розных часоў, ад Сярэднявечча да сучаснасці. Гэта дакументы, зброя, рамесніцкія вырабы, старыя манеты і цяперашнія папяровыя грошы, мастацкія творы, вялікая калькасць кніг па гісторыі Мінска і ўсёй Беларусі ды шмат што яшчэ — ажно да сёлетняга календара, адкрытага на старонцы «14 сакавіка 1999 года».

Зрэшты, сярод экспанатаў няшмат сапраўды унікальных рэчаў, каштоўнасць выставы ў іншым: тут ёсць спроба ствaрыць вобраз Мінска — таго, старажытнага, які некалі атрымаў Магдэбургскае (ці, як тады запісалі ў прывілеі, Майдэборскае) права, — і адначасова паказаць далейшы ход гісторыі горада.

Першы з двух невялікіх пакояў выставы ператвараецца ў сімвалічную залу магістрата. Ля дзвярэй складзеныя шаблі і пісталі (у Сярэднявеччы гараджане звычайна мелі пры сабе зброю, але падчас пасяджэнняў магістрата мусілі яе здаваць). На пачэсным месцы ўзвышаецца стол паседжанняў. Сведкі даўніх падзеяў — шматлікія дакументы і кнігі, што зафіксавалі штодзённыя клопаты шаноўных «айцоў горада».

З «магістрата» наведвальнікі выставы трапляюць на «рынкавую плошчу»: тут царуюць гіганцкія шалі, на якіх можна ўзважваць ажно да 100 пудоў тавару. Музейная зала ўпрыгожаная сапраўдным сцягам мінскага цэха краўцоў, а таксама выявамі гербаў іншых рамесніцкіх цэхаў Мінска. (Гэта вынік рэканструкцыі, праведзенай Анатолем Цітовым, вядомым знаўцам беларускай геральдыкі — ён узяў удзел у падрыхтоўцы выставы як навуковы дарадца.) 500 гадоў таму наша цяперашняя сталіца была горадам рамеснікаў і гандляроў, і двойчы ў год, узімку на свята Трох Каралёў і летам на Іллю, тут праходзілі вялікія кірмашы. Праўда, адчуць водар «сівой даўніны» публіцы не надта ўдаецца. Імкнучыся паказаць Мінск ва ўсёй разнастайнасці яго аблічча розных часоў, ствральнікі выставы размясцілі ў гэтай жа зале вітрыны з кнігамі, а таксама вялікую колькасць пейзажаў Мінска пачатку і сярэдзіны XX стагоддзя.

Дарэчы, гарадскія пейзажы, прадстаўленыя на выставе, заслугоўваюць асобнай гутаркі. Гэты маленькі мастацкі збор пакідае цудоўнае ўражанне: тут паказаны стары Мінск, такі, якім ён ніколі больш не будзе, і тым больш адлюстраваны вядомымі мастакамі (варта назваць хаця б Я.Кругера ці В.Цвірку). Нават для знаўцаў мастацтва некаторыя з гэтых малюнкаў і карцін — адкрыццё, найперш акварэлі М.Філіповіча. Многія творы зафіксавалі выгляд легендарных збудаванняў, раней ці пазней разбураных у XX стагоддзі — гэта Дамініканскі касцёл, «халодная сінагога», Няміга заднапавярховымі дамкамі. Шчыра кажучы, гэтая калекцыя пейзажаў выбіваецца з агульнага «сімвалічна-вобразнага» настрою экспазіцыі, па сутнасці, яна сама па сабе ўяўляе асобную выставу — цэласную і цікавую, хоць і невялікую.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

# Сутычка патрыятычных маладзёнаў пад дыванам

У Беларускім патрыятычным саюзе моладзі — скандал. Група яго членаў абвясціла пра крызіс у шэрагах БПСМ і заявіла пра стварэнне антыкрызіснага камітэта.

Барацьбіты з крызісам нават сабралі прэс-канферэнцыю, дзе больш за гадзіну распавядалі журналістам пра злоўжыванні сярод кіраўніцтва БПСМ і прызнаваліся ў любові да прэзідэнта.

Вось толькі некалькі абвінавачанняў, кінутых «раскольнікамі» ў бок сённяшніх сваіх лідэраў. Першы сакратар БПСМ Усевалад Янчэўскі манапалізаваў у сваіх руках уладу і не дае працаваць любым ініцыятывам, нават прапанаваным членамі Цэнтральнага камітэта. З-за яго БПСМ згубіў свае пазіцыі сярод моладзі. Кіраўніцтва БПСМ (разам з Янчэўскім) зганьбіла саму ідэю маладзёжнага руху, яно пагразла ў карупцыі. Янчэўскі першым з саюза атрымаў ад уладаў кватэру плошчай 68 кв.м., палепшанай планіроўкі.

Па словах прадстаўнікоў БПСМаўскай «апазіцыі», фінансавы аддзел Мінскага гарвыканкама правёў рэвізію і выявіў, што з 58-мільярднага бюджэту БПСМ, прызначанага на правядзенне розных мерапрыемстваў у гэтым годзе, 30 мільярдаў выдаткоўваецца на закупку кветак і вянкоў, яшчэ 6 мільярдаў — на набыццё мікрааўтобуса... Карацей, на несур'ёзныя рэчы. Варта зазначыць, што ўвесь бюджэт БПСМ больш чым на 50% складаецца з дзяржаўных сродкаў.

«Абнаўленцы» прапануюць замяніць кіраўніцтва саюза — «пазбавіцца ад лішніх людзей», як яны кажуць. Трэба разумець, што мэта «апазіцыянераў» — заняць месцы, якія вызваляцца пасля чысткі. Тым больш, што, «пакінуўшы свой пост, яны могуць апынуцца ў іншых, болей сур'ёзных месцах» — гэта зноў пра кіраўніцтва БПСМ.

Прадстаўнікі «афіцыйнага» БПСМ называюць усе сцвярджэнні сваіх апанентаў «трызненнем і абсурдам».

Цікава, што на чале купкі «абнаўленцаў» стаіць грамадзянін Расіі, жыхар Масквы Андрэй Суркоў. Як распавядае сам А.Суркоў, апошнія два гады ён з'яўляецца галоўным рэдактарам маладзёжнай расійскай газеты «Расійска-Беларускі Са-


Российско-Белорусский Союз
Молодёжное издание
№1 Октябрь 1998 года
Ежемесячный выпуск
Печатный орган Белорусского патриотического союза молодёжи
Газета распространяется на территории Республики Беларусь и Российской Федерации
От победы к победе!


юз». І адначасова — памочнікам аднаго з дэпутатаў Дзярждумы ад КПРФ.

У ліпені мінулага года Суркоў прыехаў у Мінск і прапанаваў БПСМ разам рабіць маладзёжную газету, для тых, чым ідзалам ёсць Лукашэнка, хто ўхваляе ягоныя намаганні па аб'яднанні Беларусі і Расіі. «Я хачу стаць палітыкам!» — нібыта заявіў ён кіраўніцтву саюза. У выніку бакі дамовіліся аб стварэнні беларускай газеты «Расійска-Беларускі Саюз» — афіцыйнага органа БПСМ. БПСМ выдзяліла новаму галоўнаму рэдактару два пакоі па 17 кв.м. у недабудаваным Палацы Рэспублікі, 2 камп'ютэры, прынтэр і тэлефоны. У кастрычніку з'явіўся першы нумар «РБС» — вельмі маляўнічы, на якасным мелаваным паперы, ён выглядаў, як рэкламны праспект нейкай паспяховай фірмы. Аднак галоўным героем газеты быў Лукашэнка: тут і ягоны здымак з маленькай дзяўчынкай на руках, і невялічкі цытатнік... Афіцыйны наклад склаў 5 тысяч асобнікаў, якія бясплатна рассылаліся ў мясцовыя філіі БПСМ. Потым выйшаў яшчэ адзін нумар, прыкладна такі ж, як і першы. І прадстаўнікі БПСМ, і Андрэй Суркоў сцвярджаюць, што ні сродкаў БПСМ, ні дзяржаўных сродкаў на газету не пайшло, усё — толькі за кошт «маскоўскай рэдакцыі».

Цяпер кіраўніцтва БПСМ сцвярджае, што з самага першага нумара Суркоў спрабаваў прапагандаваць экстрэмізм — але У.Янчэўскі сваёй рукой сістэматычна выкрэсліваў з газеты «небяспечныя» выказванні Суркова. Можа, проста тады яшчэ не надышоў час для такіх заяваў?

А ў сакавіку гэтага года з'явіўся трэці нумар «РБС» — нумар, які кіраўніцтва БПСМ абвясціла «фальшыўкай», адхрысціцца ад яго. На першай паласе — заклік да Лукашэнкі стварыць Усесаюзны патрыятычны саюз моладзі. Не думаю, каб аўтар заклiку меўся прапанаваць на пасаду кіраўніка новага саюза Янчэўскага, хутчэй сябе, любімага — маладога перспектыўнага журналіста з Масквы Андрэя Суркова.

Рэдакцыйны артыкул А.Суркова мае назву «Борись и побеждай!». Вось толькі вытрымка з яго: «Кроме тебя самого никого больше твои проблемы не интересуют. Никто не обеспечит тебя жильем, работой, не даст тебе хорошее образование. Борись и побеждай! Иного не дано. Единственное, что ты можешь — это взять силой. Будешь просить — получишь по зубам. Залог нашей победы, наш лидер — Александр Григорьевич Лукашенко, который уже начал эту борьбу. Он — наш авангард. Авангард нового класса власти. Не отставай — спеши на поле боя. Будь весел и радостен — нас ждет Великая Битва! Битва идеологическая, битва двух систем — разрушения и созидания».

Кіраўніцтва БПСМ сцвярджае (і нават прад'яўляе афіцыйныя паперы), што яшчэ ў лютым газета была зліквідаваная, а галоўны рэдактар — звольнены са сваёй пасады. Андрэй Суркоў пераконвае, што БПСМаўскія паперы зробленыя «заднім чыслом», бо праз два дні пасля «загаду аб звальненні» У.Янчэўскі ў Маскве яго прадставіў У.Сцяпанаву — аднаму з найвышэйшых чыноўнікаў «саюза Беларусі і Расіі» — менавіта як галоўнага рэдактара афіцыйнай газеты БПСМ.

На самой справе, не так ужо важна, калі быў звольнены Суркоў, фальшыўка ці не фальшыўка трэці нумар ягонай газеты, хто мае рацыю, а хто «кацiць бочкі». Беларусі аднолькава чужыя як Янчэўскі з кампаніяй, так і ягоныя апаненты. Дый што можа быць добрага ў тым, што маладыя беларускія (і расійскія) хлопцы спаборнічаюць: хто вышэй скокне, каб лізнуць высокую руку? Хто з іх самы БПСМісты і прэзідэнталюбны?

Як вядома, БПСМ адразу стваралься як саюз маленькіх кар'ерыстаў, якія будуць падтрымліваць прэзідэнта і за гэта атрымліваць падачкі з бюджэту, а таксама пасады ў органах дзяржаўнай улады. Там сядзіць моладзь, якая добра ведае, з якога боку бутэрброд намазаны маслам. І вось распачаліся унутрысаюзныя канфлікты за гэты самы бутэрброд — чаго, зрэшты, варта было чакаць.

Куды цікавейшая рэч — гэта тое, што ў Беларусі абсалютна вольна адчуваюць сябе, як дома, расійскія, маскоўскія авантурысты ўсіх масцей. Прыехаў чалавек у Мінск, прапанаваў свае паслугі «каму трэба» — і вось ён на кані, паўгода памітусіўся — гатовы саюзны палітык, прадстаўнік інтарэсаў «саюзнай моладзі». І «нашым людзям» зручна — напрыклад, па словах Суркова, усё кіраўніцтва БПСМ на чале з Янчэўскім, калі прыязджала ў Маскву, спынялася нанач менавіта ў ягонай кватэры. Эканомія, карацей.

Расійскія прайдзісветы натоўпам ірвуцца ў Беларусь, бо тут пахне вялікімі грашыма — дзеля тых, хто працуе на ніве віртуальнай інтэграцыі. І паспяхова «косяць бабкі» — пакуль ніхто не разабраўся, чым на самой справе яны займаюцца.

Прыкра толькі, што не хутка скончацца візіты да нас «патрэбных людзей з Масквы» — пакуль мы не станем самі арыентавацца толькі на Маскву.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Лама в Минске

С 21 по 23 марта в Минске прошёл цикл лекций о том, как тибетский буддизм практикуется современными западными людьми. Главную публичную лекцию читал знаменитый в буддийском мире лама Оле Нидал. На рубеже 70-х этот энергичный датчанин и его жена Ханна были учениками величайшего йогина Тибета 16-го Гьялвы Кармапы и получили от него полномочия учить и основывать буддийские центры тибетской школы Карма Кагью от его имени.



Вот уже около 27 лет жизнь Оле Нидала – кругосветное путешествие. Он читает публичные лекции, знакомя слушателей с содержанием буддийского учения в том виде, в котором его содержание ближе западному слушателю: без балласта восточной экзотики, ритуалов, таинственности и сантиментов. В центрах медитации, которых по России и Украине создано единомышленниками Нидала уже более двухсот, он учит медитативным практикам, которые веками передавались от учителей к ученикам сначала в Тибете, а с недавних пор и во всём мире.

В загадочную Беларусь, однако, Лама приехал впервые, хотя раньше и пересекал нашу страну в своих поездках. Несмотря на отсутствие рекламы, зал был полон. Помимо немногочисленных буддистов школ Кагью и Дзог Чен пришли и те, кто впервые непосредственно соприкасался с буддизмом. Стол на сцене был заполнен записками с вопросами, и у ламы Оле даже не хватило времени ответить на все. Более половины слушателей затем остались на медитацию и приняли буддийское прибежище. Лектор обещал приехать через год.

**П.К.**

 



# Забытая alma-mater

Уладзімір АРЛОЎ

У 1822 годзе праз Беларусь, над якой ужо амаль трыццаць гадоў распасціраў крылы двухгаловы расійскі арол, ехаў агент Брытанскага біблійнага таварыства Роберт Пінкертон. «Полацк, — занатаваў ён у сваім дзённіку, — яшчэ працягвае быць рэзідэнцыяй розных каталіцкіх ордэнаў: дамініканаў, бернардзінаў, трынітараў, піяраў, францысканаў, базыльянаў. Усе маюць у горадзе кляштары і храмы, многія з якіх вельмі багатыя. Гэтыя шыкоўныя грамадскія будынкі спрыяюць таму самавітаму ўражанню, што пакідае Полацк, асабліва калі да яго набліжаешся». Аднаму з пералічаных ангельскім падарожнікам ордэнаў — піярам — у тым самым годзе ўлады перадалі маёмасць зачыненай у 1820-м Полацкай езуіцкай акадэміі, якая мела статус універсітэта, але праіснавала ўсяго восем гадоў, бо хутка зрабілася моцным цэнтрам духоўнай апазіцыі царызму. Санкт-Пецярбург абавязаў новых гаспадароў былога універсітэцкага гарадка адчыніць ліцэй або калегіум.

Разам з іншымі манаскімі зарокамі піяры абяцалі навучаць моладзь. Яны спаборнічалі з езуітамі і таксама давалі адукацыю высокага ўзроўню. У піярскія школы прымалі дзяцей з розных саслоўяў. Навучальная праграма прадугледжвала выкладанне лацінскай мовы, рыторыкі, гісторыі, матэматыкі, фізікі, палітыкі і права. Шмат увагі надавалася культуры паводзінаў, фізічнаму і эстэтычнаму развіццю. На такіх прынцыпах будавалася і дзейнасць піярскай вучэльні ў Полацку.

Некаторыя аўтары называюць яе калегіумам, гэта значыць навучальнай установай сярэдняга тыпу, што, аднак, не адпавядае сапраўднасці. У Полацку дзейнічала вышэйшая піярская вучэльня, сведчаннем чаго можа служыць справаздача прафесара Пецярбургскага універсітэта В.Сянкоўскага, які ў 1826 годзе наведаў полацкіх піяраў з мэтаю рэвізіі. Паводле сталічнага візітатара, іх школа мела тры аддзяленні: падрыхтоўчы клас, чатыры ніжэйшыя класы з гімназічным курсам і тры класы, якія Сянкоўскі называе «курсами высших наук». Далей пецярбургскі рэвізор вядзе гаворку пра Полацкі ліцэй выключна як пра вышэйшую школу, якая прыраўноўвалася да універсітэта.

Даводзіцца толькі з жалем канстатаваць, што як высокі статус Полацкай школы піяраў, так і наогул само існаванне ў Беларусі гэтай адметнай вышэйшай навучальнай установы да самага нядаўняга часу заставалася па-за ўвагаю гісторыкаў, аб чым, у прыватнасці, сведчыць і адсутнасць адпаведных артыкулаў у энцыклапедычных даведніках.

Між тым, новая *alma mater* атрымала ў спадчыну ад айцоў-езуітаў цудоўныя, кажучы сучаснай моваю, стартавыя магчымасці. Апрача выдатна абсталяваных аўдыторыяў, кабінетаў, музея і карціннай галерэі з арыгіналамі Пітэра Пауля Рубенса, піярам засталася найбагацейшая ў Беларусі бібліятэка акадэміі, дзе налічвалася 40 тысяч тамоў.

Працягвала дзейнічаць акадэмічная друкарня. У 1828 годзе тут выйшла, напрыклад, першая кніга трохтамовай філасофскай працы Анёла Доўгірда «Логіка тэарэтычная і практычная».

Асобнай гаворкі заслугоўвае выкладанне ў Полацку дысцыплінаў з тэорыі і практыкі выяўленчага мастацтва. Ліцэй, дзе працягвалася традыцыі заснаванай Габрыэлем Грубэрам (полацкім прафесарам, а пазней генералам ордэна езуітаў) мастацкай школы, меў добрых выкладчыкаў і выдатныя залы для малявання, якім зайздросцілі ў сталічнай Акадэміі мастацтваў. Навучальныя праграмы спрыялі засваенню эстэтыкі класіцызму. Дзякуючы піярам Полацк захоўваў сваю ролю другога (разам з Вільняй і яе універсітэтам) мастацкага цэнтра Беларусі. Гэты факт заўсёды гатовы будзе засведчыць выпускнік ліцэя выбітны беларускі жывапісец Іван Хруцкі.

У 1823-м паліцыя раскрыла ў вучэльні таемную арганізацыю. Яна была філіяй віленскага таварыства філаматаў, куды ўваходзіў Адам Міцкевіч з сябрамі. Прэфекта ліцэя Лашкевіча і выкладчыкаў Львовіча і Брадовіча абвінавацілі ў «ненадежном образе мысли и в воспитании в молодых белорусах ненависти к русскому правительству».



Ксяндза Львовіча мы сустрэнем пад яго сапраўдным прозвішчам сярод персанажаў паэмы Міцкевіча «Дзяды». Мяркуючы па ўсім, Львовіч — пазней ён стане прэфектам (загадчыкам навучальнай часткі) Полацкай вучэльні — быў чалавек мужны і не пазбаўлены пачуцця гумару. Звяртаючыся да зняволеных сяброў, што сабраліся ў камеры ў Конрада (самога Адама Міцкевіча), і маючы на ўвазе нядаўна арыштаванага Жэготу (пад гэтым імем аўтар паэмы вывеў Ігната Дамейку, будучага вядомага ва ўсім свеце вучонага і нацыянальнага героя Чылі), полацкі ксёндз кідае папрок:

*Скажу вам, навічка*
*не надта мы сустрэлі.*
*Ну хіба плачуць у Літве*
*на наваселлі?*
*(Пераклад Кастуся Цвіркі.)*

Юных полацкіх нелегалаў, якія пашыралі антыўрадавыя вершы, улады выразшылі проста напалохаць. Гэта дапамагло ненадоўга: у 1826 годзе на карчме ў самым цэнтры горада з'явіўся вершаваны заклік скінуць ненавіснае расійскае ярмо. Паліцэйскі следчы здолеў знайсці толькі аўтара вершу. Выхаванец піяраў, сын незаможнага шляхціца Восіп Дабашынскі тых, хто «внушил ему преступную мысль о покушении на августейшую фамилию», не выдаў, а допыт вытрымаў «с замечательной решительностью, показывающей, что, сочиняя сей пасквиль, он знал всю важность своего преступления».

Таемнае таварыства працягвала дзейнічаць пад кіраўніцтвам выкладчыка гісторыі Андрэя Міхайловіча, вучня і паслядоўніка Лялевеля. Тых, хто наслухаўся яговых крамольных лекцыяў, шукалі і арыштоўвалі па ўсёй імперыі.

Расійскія каланізатары зразумелі немагчымасць укараніць у Вышэйшай піярскай школе «русский дух», і ў 1830-м вучэльню спасціг лёс яе папярэдніцы-акадэміі. Палачанін Каятан Касовіч мусіў заканчваць ужо Віцебскую гімназію. Ён здабудзе славу знанага ў свеце ўсходазнаўца, складзе першы «Санскрыта-рускі слоўнік», будзе перакладаць «Махабхарату» і кнігі зараастрыйцаў (за што персідскі шах узнагародзіць яго ордэнам Льва і Сонца), а ў Брытанскім музеі аднойчы зверне ўвагу супрацоўнікаў на тое, што асірыйскія клінапісныя тэксты ў іх павешаныя дагары нагамі.

З Полацкім вышэйшым піярскім ліцэем звязаныя яшчэ некалькі лёсаў, што засталіся ў аналах беларускай гісторыі.

У 1833 годзе генерал-губернатар Смаленскай, Віцебскай і Магілёўскай губерняў князь М.Хаванскі загадаў узяць пад варту навучэнца Віцебскай гімназіі Міхала Брама, а заадно і яго нага настаўніка, выпускніка Полацкай акадэміі Радзіслава Шапялевіча. Падставаю арышту паслужыў данос выключанага за п'янства з губернскай гімназіі «отпущенного на волю господского человека Грибачева», які сігналізаваў паліцыі, што ў Віцебску спяваюць і пашыраюць песні супраць «государя императора и России». У паперах у Шапялевіча была знойдзеная «злонамеренная переписка» студэнта Маскоўскага універсітэта, ураджэнца Віцебшчыны Тадэвуша Лады-Заблоцкага са шляхціцам Зянонам Міхалоўскім, службоўцам Віцебскага дваранскага сходу. Цяпер ужо справаю заняўся сам імперскі шэф жандараў і начальнік III аддзялення граф А.Бенкендорф. На допыце Міхалоўскі прызнаўся, што «чувство противности к русским» выхаваў у ім у гады навучання ў Полацкім ліцэі ксёндз Міхайловіч, які выкладаў усеагульную гісторыю па творах Лялевеля і «говорил всегда в отношении к России с дурной стороны, особенно поставлял неправильность забрания Белоруссии и Литвы».

Няцяжка здагадацца, што наступным арыштантам стаў Лада-Заблоцкі. Апрача «возмутительного» ліставання, яму інкрымінавалі і ўдзел у дзейнасці «Таемнага польскага літаратурнага таварыства», куды разам з іншымі студэнтамі Маскоўскага універсітэта ўваходзіў і гадаванец полацкіх піяраў Каятан Касовіч. Следства высветліла, што наймалодшы з прыцягнутых да адказнасці, пятнаццацігадовы Міхал Брам спачатку таксама займаўся ў Полацкай вышэйшай вучэльні. Вялікую небяспеку для ўладаў несумненна ўяўляў і на год старэйшы віцебскі гімназіст Іван Шаняўскі, «сын довольно достаточного помещика Полоцкого уезда», які аднойчы зняважліва выказаўся пра гербавых арлоў і вензель імператара.

Паводле выраку віцебскай «комиссии об открытии возмутительных сочинений и возмутителей», настаўніка Шапялевіча звольнілі з пасады з адпаведным запісам у паслужным спісе. Брам быў выключаны з гімназіі з забаронаю паступаць у будучым на дзяржаўную службу. Найсуровейшы прысуд напаткаў юнага Івана Шаняўскага: аддаць у вайсковую службу і выслаць шарагоўцам на Каўказ.

Суддзі Тадэвуша Лады-Заблоцкага адмералі дваццаціпяцігадовому паэту 24 гады катаргі з адбыццём яе простым салдатам у каўказскім корпусе. Там таленавіты сын Прыдзвіння пазнаёміцца з выдатнымі прадстаўнікамі закаўказскай інтэлігенцыі Мірзой Фаталі Ахундавым, Георгам Эрыставі, Нікалозам Бараташвілі, якія высока ацанілі літаратурны талент беларуса. Лада-Заблоцкі атрымаў афіцэрскае званне, аднак дазволу вярнуцца на Бацькаўшчыну так і не дабіўся. Адзіную суцеху душы давалі вершы і паэмы, што прыйшлі да чытача ў двух зборніках, якія пабачылі свет у 1845 годзе на польскай мове ў Пецярбургу і Парыжы. Праз два гады, так і не здзейсніўшы сваёй мары напіцца вады з прыдзвінскіх крыніцаў, Лада-Заблоцкі памёр ад халеры.

Праз два гады пасля закрыцця Полацкага ліцэя піяраў царскія ўлады патушылі яшчэ адзін агмень навукі і імкнення да свабоды — Віленскі універсітэт. Расія пераходзіла да мэтанакіраванай палітыкі канчатковага выключэння Беларусі з еўрапейскага цывілізацыйнага кантэксту.

## СТАРЫ АЛЬБОМ



# Даты і лёсы

## 26 сакавіка

**1769.** У Гродне быў створаны Тэатр Тызенгаўза (дзейнічаў да 1780 г.).

**1867.** Цар Аляксандр II зацвердзіў прапанову Дзяржаўнага Савета аб выдаткаванні штогод 8 тысяч рублёў на перасяленне праваслаўных сялянаў з Расіі ў Беларусь.

**1923.** У Маскве скончыўся судовы працэс над магілёўскім арцыбіскупам Янам Цэпляком і 14 ксяндзамі з Расіі, абвінавачанымі ў антысавецкай дзейнасці. Я.Цэпляк і пробашч касцёла св.Кацярыны ў Петраградзе К.Буткевіч былі прыгавораныя да вышэйшай меры пакарання, астатнія атрымалі ад 3 да 10 гадоў зняволення.

**1944.** Нарадзілася вядомая амерыканская спявачка Даяна Рос.

**1979.** У Вашынгтоне прэзідэнт Егіпта А.Садат, прэм'ер-міністр Ізраіля М.Бегін і (у якасці сведкі) прэзідэнт ЗША Дж.Картэр падпісалі сепаратны мір Егіпта з Ізраілем. Праз некалькі дзён 18 з 22 членаў Лігі арабскіх краінаў увялі палітычныя і эканамічныя санкцыі супраць егіпецкага рэжыму.

## 27 сакавіка

***Міжнародны дзень тэатра***

**1785.** Нарадзіўся кароль Францыі Людовік XVII. Ягонага бацьку, Людовіка XVI, пакаралі смерцю падчас рэвалюцыі. Хлопчык пражыў толькі 10 гадоў і быў атручаны.

**1871.** У Эдзінбургу адбыўся першы міжнародны матч па рэгбі: Англія перамагла Шатландыю.

**1945.** Апошняя германская ракета V-2 забіла аднаго і параніла 23 чалавек у Арпінгтоне каля Кента. Усяго ж немцы выпусцілі па Англіі 1.115 ракетаў (з іх 500 упалі на Лондан). Ахвяраў было параўнальна нямнога — 2.855 чалавек забітых і 6.268 цяжка параненых. Найгоршым быў выпадак, калі ракета трапіла ва універмаг: тады загінулі 160 чалавек. Але яшчэ больш ракетаў было выпушчана па Бельгіі, толькі на Антверпен упалі 1.500.

**1953.** Прэзідыум ВС СССР выдаў указ аб амністыі для паловы зняволеных ГУЛАГа — 1.202 тыс. чалавек. Усім астатнім, апрача пакараных за контррэвалюцыйную дзейнасць і бандытызм, тэрмін зняволення быў скарочаны напалову.

**1986.** Пракурор Рудольф Джульяні абвесціў, што гадавы даход італьянскай мафіі ў ЗША дасягнуў 75 млрд. долараў.

## 28 сакавіка

**1899.** Бельгійская экспедыцыя на чале з Адрыянам Жэрлашам паспяхова завяршыла першую ў гісторыі зімоўку ў Антарктыдзе (на 71-м градусе паўднёвай шыраты).

**1939.** Скончылася грамадзянская вайна ў Іспаніі: войскі «нацыяналістаў» на чале з Франка захапілі Мадрыд.

**1941.** Брытанскі флот патапіў 7 італьянскіх ваенных караблёў у бітве ля мыса Матапан (востраў Крыт).

**1949.** У аддаленыя рэгіёны СССР з Літвы былі высланыя 6.845 сем'яў «кулакоў» і 1.972 сям'і «нацыяналістаў» (29.180 чалавек). Раней, у траўні 1948 г., з Літвы ўжо былі высланыя 11.345 сем'яў (39.766 чалавек).

**1979.** Здарылася адна з буйнейшых у атамнай энергетыцы аварыя на станцыі *Three Mile Island* у штаце Пенсільванія. Рэактар разбурыўся амаль цалкам, але дзякуючы мерам бяспекі забруджванне навакольнага асяроддзя было нязначным.

**1989.** У Прыштыне ды іншых косаўскіх гарадах прайшлі дэманстрацыі супраць скасавання югаслаўскімі ўладамі канстытуцыі Аўтаномнага краю Косава і абвяшчэння яго неад'емнай часткай Сербіі. У выніку расстрэлу дэманстрацыяў паліцыяй загінулі 22 чалавекі. Улады зачынілі Албанскі універсітэт.

## 29 сакавіка

**1853.** Нарадзіўся вынаходнік трансфарматара І.Томсан, які разам з Эдысанам заснаваў кампанію *General Electric*.

**1919.** Чырвоная армія выбіла з Гомеля паўстанцаў Стракапытава, якія ўтрымлівалі горад 5 дзён (падчас артабстрэлу згарэў палац Паскевіча). Дзесяткі ўдзельнікаў паўстання былі пакараныя смерцю, але большасць перайшла фронт з Украінай, а адтуль была пераклікана ў Эстонію, дзе далучылася да войскаў Юдзеніча і Булак-Балаховіча.

**1943.** Партызан Матусевіч забіў у Мінску адваката Фабіяна Акінчыца, заснавальніка Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі.

**1974.** Амерыканскі касмічны карабель *Mariner-10* прайшоў побач з планетай Меркурый і перадаў на Зямлю яе падрабязныя здымкі.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

 

